**№ 138 (1203)**

Серада, 1 жніўня 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 100 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб Колас**

# Народная Воля

**Надвор'е**

Сёння ўдзень па краіне чакаецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў, толькі па паўднёвым усходзе кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер няўстойлівы, слабы. Тэмпература паветра ўначы — +9...+14, удзень — +19...+24.

Пейджынговую связь редакции обеспечивает
МОБИЛКОМ пейджинг-система
(017) 222-46-51
(017) 222-46-52

ПУЛЬС

## Делегация Парламентской Ассамблеи Совета Европы – в Беларуси

С целью ознакомления с текущей политической ситуацией в Беларуси, в частности, в свете предстоящих президентских выборов (9 сентября 2001 г.), в Минск прибыла делегация Парламентской Ассамблеи Совета Европы.

В составе парламентской делегации — Тери Дэйвис (Великобритания, соц.), председатель Политического Комитета Ассамблеи; Вольфганг Берендт (Германия, соц.), докладчик по Беларуси Политического комитета, и Сирил Свобода (Чешская Республика, н.д.), докладчик Комитета по вопросам права и правам человека.

В ходе визита парламентарии встретятся с белорусскими властями, кандидатами на президентских выборах, представителями различных политических сил, правозащитных организаций, профсоюзов, женских организаций и исследовательских институтов.

Они также встретятся с послами государств-членов Совета Европы и с Консультативно-наблюдательной группой ОБСЕ в Беларуси.

В 1992 г. парламенту Беларуси был предоставлен статус особо приглашенного в Парламентской Ассамблее Совета Европы, который был приостановлен в январе 1997 г. в свете конституционных разногласий в стране. Процедура вступления в Совет Европы была также "заморожена". Тем не менее Ассамблея приняла решение продолжать контакты со всеми политическими силами в целях оказания поддержки демократическому развитию страны.

**Пресс-конференция парламентской делегации состоится 3 августа 2001 г. в 9.30 в Национальном пресс-центре по адресу: ул.Октябрьская 5, г.Минск.**

*(Из пресс-релиза пресс-службы Совета Европы.)*

## Шуму многа, але ці будзе цукар?

Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб звальненні Віктара Уладыкі з пасады старшыні праўлення Беларускага рэспубліканскага саюза спажывецкіх таварыстваў, Пятра Казлова — з пасады міністра гандлю і Івана Шаколы — з пасады прэзідэнта Беларускага дзяржаўнага канцэрна харчовай прамысловасці. Указ падпісаны 30 ліпеня. У ім зазначаецца, што ўсе гэтыя чыноўнікі вызвалены з пасадаў "за сур'ёзныя хібы ў працы, што праявіліся ў неналежным выкананні службовых абавязкаў".

Нагадаем, што 27 ліпеня на нарадзе па выніках сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны ў першым паўгоддзі Лукашэнка рэзка крытыкаваў работу названых асоб у сувязі з праблемамі, што ўзніклі з пастаўкай і рэалізацыяй цукру. Паводле яго слоў, у перадвыбарных умовах гэтая праблема набывае палітычны характар. "Навошта стварылі паўтара месяца таму гэтую праблему? Яе ж ператварылі, гэтую праблему, у палітычную праблему. Што, мы гэтага не разумеем? Ну а, можа быць, у некага і вялікая палітыка была: вось, маўляў, паглядзіце, як ён кіруе дзяржавай", — сказаў Лукашэнка.

**Наталля КУЛАГІНА.**

## Зварот

### выканаўчага бюро Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) да Каардынацыйнай Рады дэмакратычных сіл

Шаноўныя сябры!

Каардынацыйная Рада дэмакратычных сіл прыняла рашэнне аб правядзенні свайго форуму — Кангрэса дэмакратычных сіл. Паважаючы Ваша безумоўнае права на правядзенне сваіх мерапрыемстваў, звяртаем Вашу ўвагу на небяспечнасць правядзення Вашага Кангрэса ў крытычны для Беларусі час. Мы памятаем, як у мітынговай эмацыйнай атмасферы мінулага Кангрэса былі прыняты не ўзгодненыя папярэдне ўсімі яго ўдзельнікамі рашэнні, што прывяло да расколу дэмакратычнага лагера. Мы лічым, што правядзенне Вашага Кангрэса ўтварае рызыку рэвізіі ўжо дасягнутых пагадненняў аб нашым адзінстве на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах. Выканаўчае Бюро БСДП заклікае арганізацыі-ўдзельнікі КРДС адмовіцца ад правядзення свайго Кангрэса дэмакратычных сіл у жніўні бягучага года. Мы прапануем Вам правесці пасля рэгістрацыі кандыдатаў у прэзідэнты Форум шырокай грамадзянскай кааліцыі ў падтрымку адзінага кандыдата, а ўзначаліць працу па яго падрыхтоўцы прапануем даручыць кіраўніцтву Руху "За новую Беларусь". Толькі Форум, дзе павінны быць прадстаўлены не толькі праваарыентаваныя цэнтрысцкія, але і ўсе асноўныя дэмакратычныя арганізацыі, можа паспрыяць захаванню і ўмацаванню адзінства дэмакратычных сіл рознай скіраванасці. Толькі разам мы маем шанц на перамогу!

## Аварыя ў Лагойску

Каля тысячы кватэр жыхароў Лагойска засталіся 29 ліпеня без электразабеспячэння. Як паведамілі БелаПАН у прэсслужбе Міністэрства па надзвычайных сітуацыях (МНС), аварыя адбылася ў выніку адключэння кабельнага ўчастка на адной з ліній перадач. Без электраэнергіі застаўся не толькі жылы сектар — была спынена праца малочнага завода, гарадской кацельні, ачышчальных прыстасаванняў і некаторых іншых аб'ектаў Лагойска. А 22-ой гадзіне, пасля завяршэння аварыйна-аднаўленчых работ, падача электрычнасці была аднаўлена.

**Крысціна СТАНКЕВІЧ.**

## Не выйшлі нават на леташні ўзровень

Прамысловыя прадпрыемствы Магілёўскай вобласці не выканалі заданне, устаноўленае аблвыканкамам на паўгоддзе. Меркавалася, што па выніках працы за 6 месяцаў прамыслоўцы выйдуць па аб'ёмах вытворчасці на ўзровень адпаведнага перыяду мінулага года, аднак зрабіць гэта не ўдалося.

Паводле звестак статыстыкі, у студзені — чэрвені прамысловыя прадпрыемствы вобласці выпрабілі прадукцыі на 0,8 працэнта меней, чым за аналагічны леташні перыяд. На 2,2 працэнта меней выраблена спажывецкіх тавараў, у тым ліку харчовых — на 3,6 працэнта. Запасы гатовай прадукцыі на складах павялічыліся на 6 працэнтаў. Больш чым на 10 працэнтаў узраслі страты рабочага часу ў прамысловай сферы. Знізілі аб'ёмы вытворчасці 8 з 13 галінаў.

**Канстанцін УВАРАЎ.**

ТЭМА ДНЯ

*Вячаслаў ОРГІШ, доктар філасофскіх навук*

# Беларуская хвароба,

## альбо Пра Сямёна Домаша і залатую рыбку

Наша грамадзянская свядомасць... Адным яна не дае спакойна жыць, вымушае штохвілінна вяртацца да самых балючых тэм грамадскага існавання, штурхае на звышахвярныя ўчынкі. Як, напрыклад, чэшскага студэнта Яна Палаха, які ў знак пратэсту супраць акупацыі Чэхаславакіі савецкімі войскамі спаліў сябе зажыва ў цэнтры Прагі.

Другіх гэта свядомасць таксама прымушае турбавацца і напружвацца, нават штурхае ў палітыку. Робіць непахіснымі і ўпартымі ў дасягненні пастаўленай мэты. Настолькі ўпартымі, што ў рэшце рэшт гэта шкодзіць справе агульнага палітычнага змагання.

У мінулы панядзелак, бліжэй да вечара, вяртаўся дадому. У падземнай электрычцы нечакана сустрэў вядомага беларускага мастака Уладзіміра Тоўсціка. Даўні знаёмы, ён, тым не менш, не завёў гаворку пра мае ці свае справы, а адразу пачаў цікавіцца тым, што я думаю адносна палітычнай праблемы нумар адзін сённяшняга грамадскага жыцця беларусаў (відаць, моцна баліць на душы ў чалавека).

Калі ўжо прыехалі на станцыю "інстытут культуры" і разыходзіліся ў розныя бакі, ён з неприхаванай зацікаўленасцю спытаў: дык ці застанецца Уладзімір Іванавіч адзіным кандыдатам ад аб'яднаных дэмакратычных сіл, ці здолее Сямён Мікалаевіч дзеля агульнай справы скруціць сваю ўпартасць і пачаць рэальна працаваць на "адзінага", а не "раскручваць" сябе харошага насуперак дамоўленасці "пяцёркі"?

Пасля таго, як я адказаў, што гэта складанае пытанне, што двухсэнсоўныя заявы і дзеянні Сямёна Мікалаевіча даюць падставы для скептычных высноў, у майго знаёмага прапаў настрой. Ён вытрымаў невялікую паўзу і амаль з роспачы сказаў: "Адбываецца тое, што павінна было адбыцца". І ўжо зусім на развітанне з уласцівай людзям яго прафесіі шчырасцю дадаў: гэта класічны нацыянальны дыягназ беларусаў.

На самай справе, што адбываецца?

Чаму дамоўленасць аб вылучэнні ў якасці "адзінага" Уладзіміра Ганчарыка, якую "пяцёрка" прэтэндэнтаў дасягнула з такой цяжкасцю 21 ліпеня, некаторыя палітычныя групоўкі спрабуюць перагледзець?

Чаму спадар Домаш, які падпісаў пагадненне "пяцёркі" аб вылучэнні адзінага, тым не менш друкуе звароты да сваіх паплечнікаў, з якіх вынікае, што ён быццам бы вітае "адзінага", але на самай справе раіць не спяшацца станавіцца пад сцяг гэтага "адзінага", а, наадварот, прапануе сваёй камандзе захоўваць адасобленасць і чакаць нейкага часу "Х"?

Чаму спадар Фёдараў, адзін з кіраўнікоў магілёўскіх структур БНФ, публічна разважае пра магчымасць рэвізіі рашэння аб вылучэнні "адзінага", бо, маўляў, былі парушаны крытэрыі вызначэння адзінага кандыдата? Няўжо ён сапраўды лічыць, што такая рэвізія меней як за шэсць тыдняў да прэзідэнцкіх выбараў паспрыяе перамозе дэмакратычных сіл?

Чаму лідэр "Маладога Фронту" Павел Севярынец, які 21 ліпеня шчыра віншаваў Уладзіміра Ганчарыка і абяцаў падтрымаць яго ў якасці "адзінага", так і не здолеў схіліць на свой бок таварышаў? Чаму кангрэс маладых дэмакратаў, які прайшоў у мінулую нядзелю, знайшоў магчымым, насуперак дасягнутым раней пагадненням, падтрымаць вылучэнне двух дэмакратычных кандыдатаў?

Шмат такіх "чаму". Аднак, магчыма, ёсць нейкія рацыянальныя аргументы на карысць далейшага ўдзелу спадара Домаша ў прэзідэнцкай кампаніі? Паспрабуем тое-сёе зразумець.

Ідэя вылучэння адзінага кандыдата ад дэмакратычных сіл выспела даўно. Яе прыхільнікі справядліва лічылі і лічаць, што толькі асоба "адзінага" дазволіць максімальна прыцягнуць пратэстны электарат. Прычым, "адзінага", палітычныя рысы якога ў найбольшай ступені адпавядаюць уяўленням і чаканням электаральнага цэнтра, дзе больш за ўсё праціўнікаў Лукашэнкі.

Выбар выпаў на Уладзіміра Ганчарыка менавіта таму, што ен найбольш адпавядае вобразу палітычнага цэнтрыста. Паставіўшы на яго, аб'яднаныя дэмакратычныя сілы могуць разлічваць сабраць самы значны ўраджай сярод тых выбаршчыкаў, хто прагне палітычных перамен у краіне.

З'яўленне на перадвыбарчай сцэне ігрока з рэпутацыяй правага палітыка, падзяляючага погляды нацыянал-дэмакратаў, папершае, распаўсюдзіць сярод колькасна найбольшай памяркоўнай часткі выбаршчыкаў недавер да намераў аб'яднаных дэмакратаў, а па-другое, прывядзе да расколу пратэстнага электарату.

"Чырвонаму дому" толькі гэта і трэба. Два супернікі замест аднаго дазволяць гаспадару гэтага дома больш паспяхова змагацца за галасы вагаючыхся выбаршчыкаў і, магчыма, набраць неабходную іх колькасць яшчэ ў першым туры. А калі не, то выкарыстаўшы адміністратыўны рэсурс, "дапамагчы" выйсці ў другі тур менавіта Сямёну Мікалаевічу. Справіцца з ім, прышпіліўшы ярлык "нацыяналіста" і "антырасійца", будзе значна прасцей, чым з Уладзімірам Іванавічам. Згодна з сацыялагічнымі апытаннямі на мінулым тыдні, Ганчарыку ўжо сёння мінскія выбаршчыкі, напрыклад, у другім туры схільныя аддаць перавагу перад галоўным фаварытам.

Магчымы і іншы сцэнарый улады, згодна з якім упарты дэмакрат Домаш прымае ўдзел у рэгістрацыі кандыдатаў і дамагаецца свайго. А памяркоўнага Ганчарыка з гульні "выключаюць". Потым за справу бяруцца майстры чорнага піара, спрактыкаваныя бацькі "дзяцей хлусні". У іх нараджаецца чарговае "дзіця", якога завуць "нацыянал-фашыст Сямён Домаш". У рэшце рэшт, каго выбірае запалоханы электарат, здагадваецеся? І хай паспрабуе хто-небудзь гаварыць, што выбары былі недэмакратычнымі, што іх нельга лічыць законнымі, што Захаду не варта іх прызнаваць і г. д.

Калі згаданыя варыянты развіцця выбарчай сітуацыі ўладу не вабяць, чаму тады так мітусяцца вакол асобы Сямёна Мікалаевіча дзяржаўныя СМІ? Чаму з Домашам апошнім часам так ліслíва паводзіць сябе БТ, спрабуючы падбухторыць яго да супрацьстаяння з Ганчарыкам? Якія пачуцці імкнуцца разбудзіць у сэрцы лідэра "Рэгіянальнай Беларусі" тэлевізійныя данайцы, калі малююць яго ледзь не Дон Кіхотам, у якога "недобрасумленныя" палітыкі на чале з Ганчарыкам укралі рыцарскі тытул "адзінага"?

Усім, каму карціць дамагчыся рэвізіі пагаднення аб адзіным кандыдаце ў прэзідэнты ад дэмакратычных сіл, перш чым кідацца ў спрэчкі, варта было б пашукаць адказы на гэтыя пытанні.

Яшчэ трэба пашукаць тую нашу нацыянальную хваробу, якую меў на ўвазе мой знаёмы мастак.

Што мы за людзі, калі няздольныя дасягнуць еднасці і згоды падчас нацыянальнай небяспекі? Чым такім атручана наша свядомасць, з-за чаго мы няздольныя зразумець, што поспех грамадскай справы найперш залежыць ад нашай здольнасці прыцішыць амбіцыі, саступіць адзін аднаму і, калі патрэбна, ахвяраваць асабістымі палітычнымі амбіцыямі?

Выходзіць, мы сапраўды згубілі пачуццё калектыўнай нацыянальнай душы. Інакш як патлумачыць, што там, дзе палякі, яўрэі, татары, немцы, кітайцы, карэйцы, індыйцы ды іншыя народы хуценька гуртуюцца, там беларусы спрачаюцца за індывідуальныя прыярытэты? Як зразумець тое, што нам бывае мулка, калі нехта (а не ты) выходзіць наперад?

Гісторыя з пошукамі спадаром Домашам і яго прыхільнікамі другога "адзінага" яшчэ не скончылася. Аднак няцяжка прадказаць яе фінал. Трэба толькі ўзгадаць казачку Аляксандра Пушкіна пра залатую рыбку. Памятаеце словы старой на пачатку казачнага сюжэта: не хачу быць простай сялянкай, хачу быць "столбовой" дваранкай?!

А чым скончылася казачная гісторыя, памятаеце?

Назіраць Сямёна Мікалаевіча каля разбітага карыта будзе, безумоўна, прыкра. Але яшчэ больш прыкра будзе ўсведамляць, што разам з ім каля разбітага карыта апынулася ўся дэмакратычная грамадскасць краіны.

Каб пазбегнуць сумнага фіналу, Сямёну Мікалаевічу і яго паплечнікам варта прыслухацца да дыягназу, агучанага маім знаёмым мастаком. Яшчэ есць час і магчымасці выправіць становішча.

А для таго, каб трапіць у гісторыю, не абавязкова прайсці ахвяравальным шляхам Яна Палаха. Аднак рабіць самаахвярныя ўчынкі неабходна.

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ



## Падлеткаў збілі, але не адказалі, дзе Ю.Захаранка, дзе В.Ганчар, дзе А.Красоўскі, дзе Дз. Завадскі?

Як ужо паведамлялася, днямі паўтысячы юнакоў і дзяўчат сабраліся ў Мінску на плошчы Перамогі, каб адзначыць 11-ю гадавіну прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь. Дарэчы, улады пра гэту знамянальную дату наогул забылі. Але ж яны не хацелі бачыць у самым людным месцы і актывістаў незарэгістраванага руху "Зубр". Тым больш, што апошнія трымалі ў руках партрэты бясследна зніклых і заўчасна памерлых вядомых палітыкаў; не па нутру быў і вянок з бел-чырвона-белай стужкай і з надпісам на ёй: "Змагарам за незалежную Беларусь ад руху "Зубр".

Як толькі вянок быў ускладзены да Вечнага агню, на плошчы з'явіўся эскадрон нейкіх малойчыкаў, якія ўчынілі самы сапраўдны хапун. Больш за 20 удзельнікаў акцыі былі затрыманы.

Падлеткаў збілі, але яны так і не пачулі адказу на пытанні: дзе Ю.Захаранка, дзе В.Ганчар, дзе А.Красоўскі, дзе Дз.Завадскі, што сталася з іншымі людзьмі?

Не, маладое пакаленне беларусаў ніколі ніхто не паставіць на калені. За такімі хлопцамі і дзяўчатамі, як "зубраняты", — будучыня Беларусі.

**Фота IREX/ProMedia.**



У СОСЕДЕЙ

## Кое-что о ценах в Литве

В Беларуси проблема цен — тема номер один для разговоров. Цены в магазинах растут с завидным упрямством. В отличие от зарплаты. Во всяком случае, 100 долларов для бюджетников все еще остаются предвыборным обещанием.

Нередко можно услышать, что цены в белорусских магазинах на продукты питания уже превысили зарубежные. Я попробовал сравнить их с литовскими. Молодой картофель в Вильнюсе можно купить от 0,35 до 1,10 лита за кг (4 лита — 1 доллар США). Помидоры — 2,00—2,50 лита за кг. Огурцы — 1,5—1,8 лита. Хлеб в литовских магазинах бывает очень разнообразным как по ассортименту, так и по ценам — в среднем от 2 до 5 литов. Правда, аналогов дорогого литовского хлеба с различными семечками, орехами и специями в Беларуси, пожалуй, не выпекают. Говядина в Литве стоит 8—9 литов. Кстати, дешевле чем в Литве, мясо в других прибалтийских странах вы не купите.

Молочные продукты: литр молока стоит 1,7 лита, сливочное масло — 11 литов за кг. Следует, однако, заметить, что продукты в литовских магазинах качественнее белорусских. Особенно отличаются колбасные изделия. И о самом главном. О зарплате. Средняя зарплата в Литве — 270 долларов США. Обычно тут зарабатывают от 300 до 500 долларов.

***Алесь КОЗИК,***
***("Витебский курьер").***

КРЫМІНАЛ

## Крадуць...

620 літраў дызельнага паліва былі выкрадзены жыхарамі Маларыцкага раёна з трубаправода на тэрыторыі адной з воінскіх часцей у Пружанскім раёне.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе УУС Брэсцкага аблвыканкама, трое мужчын ва ўзросце ад 22 да 39 гадоў — двое калгаснікаў і адзін непрацуючы — прыехалі ў воінскую часць з мэтай крадзяжу саляркі, і гэта ім удалося. Аднак пры спробе вывезці дызпаліва яны былі затрыманы супрацоўнікамі Пружанскага РАУС. Па дадзеным факце ўзбуджана крымінальная справа.

Нядаўна спроба выкрасці дызпаліва была здзейснена і ў Камянецкім раёне.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

НЕЛЬЗЯ МОЛЧАТЬ

# Безработицу не скрыть!

А.Лукашенко и его опричники разглагольствуют: в Беларуси нет безработицы. Какой наглый обман! Мало того, что у нас на многих предприятиях, в учреждениях, колхозах, совхозах создается видимость занятости людей, так примерно каждый десятый человек вообще не имеет постоянной работы. Подумайте только: каждый десятый не зарабатывает даже куска хлеба...

За 7 лет Беларусь заморозила развитие рынка труда. 80% рабочих получают зарплату от государства, у которого хронически не хватает денег. В 1990 г. численность экономически активного населения составляла почти 5,2 млн. человек при общем населении страны 10,2 миллиона. Сегодня нас меньше 10 миллионов. Рабочая сила сократилась до 4,4 миллиона человек. При этом число пенсионеров составляет четверть всего населения страны. За 10 лет численность населения страны уменьшилась на 2%, рабочая сила сократилась на 18%, а число пенсионеров выросло на 13%.



**Фото IREX/ProMedia.**

А. Лукашенко предпочитает замалчивать проблему безработицы. Реально в стране не имеют постоянной работы около 10% работоспособного населения. И это при том, что не начата реструктуризация промышленности, транспорта и сельского хозяйства. Даже официальные структуры отмечают значительные масштабы скрытой безработицы на производстве, неэффективное использование рабочего времени и низкую производительность труда. У государства отсутствует концепция борьбы с молодежной, женской и длительной безработицей. Программы профессионального обучения и переквалификации формальны, оторваны от спроса конкретных производств. Не определен порядок компенсации за создание новых рабочих мест и обучение молодежи на конкретном производстве товаров и услуг.

Человек без работы не может думать ни о семье, ни о будущем. Безработица — это одна из острейших проблем, которую мы должны решать. Легче всего — создавать больше рабочих мест для чиновников, но это бесперспективно. Беларуси нужны рабочие места, на которых создается, а не проедается добавленная стоимость. Государство должно взять на себя обязательство, во-первых, по созданию условий для открытого рынка труда, во-вторых, по достаточной материальной поддержке безработных, в-третьих, по стимулированию самозанятости, в-четвертых, по развитию малого и среднего бизнеса. Кроме того, белорусской промышленности жизненно необходима реструктуризация.

Самый эффективный способ борьбы с безработицей — создание новых рабочих мест малым и средним бизнесом. Структурные преобразования осуществятся, если в данном секторе будут работать 2/3 всех рабочих. Чтобы рынок труда Беларуси был перспективным, чтобы человек, временно потерявший работу, чувствовал себя защищенным, необходимо реформировать трудовое законодательство с целью: эффективного размещения и использования трудовых ресурсов при строгом соблюдении контрактных прав наемного рабочего и работодателя; повышения роли индивидуальных трудовых договоров; совершенствования судебных механизмов защиты работающих; возвращения заработной плате ее воспроизводственной, стимулирующей и регулирующей функции; развития рыночных механизмов регулирования заработной платы.

Когда Беларусь вернется в семью европейских демократических государств, правительству будет гораздо легче договариваться с западными странами по поводу расширения квоты рабочих мест для Беларуси. Созданные привлекательные условия для экономической деятельности в стране позволят привлечь иностранные инвестиции. А это — перспектива создания новых рабочих мест. Этому будет способствовать развитие малого и среднего бизнеса, либерализация торговли, сферы услуг, транспорта, модернизация промышленности.

**Семен ДОМАШ,**
**лидер "Региональной Беларуси"**

Кожны голас будзе ўлічаны

Незалежнае назіранне
Грамадзянская ініцыятыва
Народны кантроль

Грамадзянская ініцыятыва "Незалежнае назіранне" аб'ядноўвае людзей, якія будуць працаваць дзеля забеспячэння адкрытасці і справядлівасці выбараў.

**Далучайцеся:**
г.Мінск тэл. (017) 213-43-52
Брэсцкая вобласць: тэл. (0162) 26-65-69
Віцебская вобласць: тэл. (0212) 37-36-09
Гомельская вобласць: тэл. (0232) 55-93-71, (02342) 4-58-91
Гродзенская вобласць: тэл. (0152) 39-93-87
Магілёўская вобласць: тэл. (0222) 25-84- 00
Мінская вобласць: (017) 221-60-55, 258-78-14

ЖНІВЕНЬ
**1**
СЕРАДА

Усход 5.22
Захад 21.08
Даўж. дня 15.46

Поўня 4 жніўня
Захад 2.34
Усход 20.12

2001

